# Голас Радзімы

№ 15 (2105)
13 красавіка 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Гэтаму тэатру ўсяго адзін год. Ён дзіця тых перамен, што адбываюцца сёння ў нас у краіне. У рэпертуары мінскага тэатра сатыры і гумару «Хрыстафор» спектаклі і інтэрмедыі на самыя вострыя тэмы сучаснасці, у сваіх рэпрызах артысты жыва адгукаюцца на ўсе падзеі сённяшняга жыцця ў краіне і ў рэспубліцы. І таму ў артыстаў заўсёды цесны кантакт з гледачом.

НА ЗДЫМКАХ: акцёрская трупа ля свайго тэатра; член мастацкага савета акцёр Л. КЛУННЫ і мастацкі кіраўнік У. ПЕРЦАЎ; мініяцюра «Вяселле».

Пра тэатр «Хрыстафор» чытайце матэрыял «Галоўная зброя — смех» на 6—7-й стар.

Фота С. КРЫЦКАГА.





СЕМІНАР-НАРАДА





У Брэсце адбыўся занальны семінар-нарада па пытаннях інтэграцыі сельскай гаспадаркі і прамысловасці, развіцця асабістых падсобных гаспадарак. У яго рабоце прынялі ўдзел член Палітбюро ЦК КПСС Я. Лігачоў, сакратар ЦК КПСС А. Бакланаў, кіраўнікі і спецыялісты з Беларусі, Украіны, Малдавіі, Літвы, Латвіі, Эстоніі і Калінінградскай вобласці.
Удзельнікі нарады пабывалі ў многіх сельскіх гаспадарках Брэстчыны, абмяняліся думкамі па вызначаных пытаннях. Перад імі выступіў Я. Лігачоў.
НА ЗДЫМКАХ: горад Брэст. Я. ЛІГАЧОЎ і ўдзельнікі семінара ўскладаюць кветкі да помніка У. І. Леніну.

У ЦК КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

## ЗРУХІ ЁСЦЬ!

Пад старшынствам сакратара ЦК КПБ В. Пячэннікава адбылося пасяджэнне Ідэалагічнай камісіі Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі.

З паведамленнем выступіў міністр народнай адукацыі БССР М. Дзямчук. Асаблівая ўвага была ўдзелена ім праблемам выкладання беларускай мовы ў навучальных установах рэспублікі. Адзначана, што ў выніку прынятых арганізацыйных мер і растлумачальнай работы спынены многія негатыўныя тэндэнцыі ў школе. З 1989/90 навучальнага года ўводзіцца вывучэнне беларускай мовы ў школах з рускай мовай навучання з 1 класа. Удасканалены праграмы па беларускай мове, рыхтуецца новая праграма па беларускай літаратуры. Уведзены пісьмовы экзамен (дыктоўка) па беларускай мове за курс няпоўнай сярэдняй школы з рускай мовай навучання. На ўсіх факультэтах педінстытутаў і на педпатоках універсітэтаў уводзіцца ўступны экзамен па беларускай мове і літаратуры, у педвучылішчах — пісьмовы ўступны экзамен па беларускай мове.

М. Дзямчук ахарактарызаваў рад іншых мер, накіраваных на паляпшэнне выкладання і функцыяніравання ў навучальных установах рэспублікі беларускай мовы, выказаў прапановы па ўдасканаленню яе статуса.

Міністр культуры БССР Я. Вайтовіч раскрыў у сваім выступленні асноўныя аспекты праблемы захавання і развіцця нацыянальнай культуры. І тут сур'ёзнае значэнне надаецца ўдасканаленню структуры народнай адукацыі. Вялікую ролю, напрыклад, заклікана адыграць рэспубліканская праграма эстэтычнага выхавання, якая прадугледжвае рэзкае павелічэнне колькасці школ эстэтычнай накіраванасці.

Міністэрствы і ведамствы пачалі распрацоўку канцэпцыі і асноўных мерапрыемстваў доўгатэрміновых праграм «Родная мова» і «Спадчына». Аднак дзеянні іх пакуль разрозненыя, да гэтай важнай справы недастаткова падключаюцца шырокая грамадскасць, сродкі масавай інфармацыі.

Праграма «Спадчына» прадугледжвае комплекс мер па захаванню, адраджэнню і арганічнаму ўвядзенню ў наша жыццё нацыянальнай спадчыны, народных звычаяў і традыцый. З улікам велізарнага маштабу будучай работы ў справу выяўлення, рэстаўрацыі і рэканструкцыі аб'ектаў матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа трэба будзе ўключыць не толькі дзяржаўныя органы, установы культуры, навуковыя ўстановы, але і шырокую грамадскасць.

Камісіяй падтрымана ідэя папярэдняй прапрацоўкі і абмеркавання найбольш важных раздзелаў праграм «Родная мова» і «Спадчына» ў працоўных калектывах, творчых саюзах, добраахвотных таварыствах, установах культуры, мясцовых партыйных і савецкіх органах.

Намечана пасля завяршэння распрацоўкі праектаў праграм апублікаваць іх у друку для ўсенароднага абмеркавання.

АНТЫВАЕННЫ РУХ

## «УСПАМІНЫ ДЗЕЛЯ БУДУЧЫНІ»

У Беларускім камітэце абароны міру дасягнута дагаворанасць з прадстаўнікамі грамадска-рэлігійнай арганізацыі ФРГ «Ініцыятыва брэменскіх цэркваў за раззбраенне» аб сумесным пошуку былых «усходніх рабоў» — вывезеных у гады другой сусветнай вайны на катаржныя работы ў фашысцкую Германію мірных жыхароў Беларусі.

— Адзін з міратворчых лозунгаў пастарскага руху ФРГ, якім аб'яднаны разам з намі такія евангелісцкія арганізацыі, як «Хрысціянская мірная канферэнцыя», «Хрысціянская служба міру», «Ініцыятыва Лідзіцы» і іншыя, — гэта «ўспаміны дзеля будучыні», — сказаў кіраўнік дэлегацыі, пастар з горада Брэмена Хартмут Дрэвес.— Мы хочам адшукаць з дапамогай савецкіх прыхільнікаў міру былых вязняў фашысцкага рэжыму і арганізаваць па ўсёй Германіі сустрэчы з імі жыхароў тых гарадоў, у якіх яны перажылі нацысцкае рабства. У гэтым прыхільнікі нашай ініцыятывы бачаць самы рэзультатыўны ўклад у барацьбу са спробамі гістарычнай рэабілітацыі германскага фашызму, распальвання варожасці паміж савецкім і нямецкім народамі.

У Брэмене аўтарамі праграмы міжнароднага пошуку ахвяр германскага фашызму сталі актывісты арганізацыі «Ініцыятыва Лідзіцы», названай у памяць адной з вёсак у Чэхаславакіі, якую ў гады другой сусветнай вайны спасціг лёс беларускай Хатыні.

НАВУКА КІРАВАЦЬ



Конкурс маладых арганізатараў вытворчасці прайшоў у магілёўскім вытворчым аб'яднанні «Хімвалакно». Да ўдзелу ў гэтым мерапрыемстве былі запрошаны прадстаўнікі талінскай школы менеджэраў з Эстоніі. Звыш шасцідзесяці майстроў, начальнікаў участкаў і цэхаў, маладых інжынераў прынялі ўдзел у дзелавых гульнях. Саперніцтва было даволі вострым. Заданні даваліся самыя разнастайныя: скласці службовую запіску, разабрацца ў сітуацыі «Стрэс», правесці пошук заканамернасцей. Напружана прайшлі рэгламентуемыя дыскусіі, кіраўніцкі трэнінг. А распрацоўка схемы ідэальнай кар'еры кіраўніка аказалася ў многім карыснай як для ўдзельнікаў конкурсу, так і для групы экспертаў.
Завяршыла конкурсны марафон дасціпная гульня «Арганізатар». У ёй было ўсё, як у жыцці: шэсць дырэктароў прадпрыемстваў, лідэраў конкурсу, набіралі сабе штат, размяркоўвалі фонд заработнай платы, адпрацоўвалі новую тэхналогію эканамічнага стымулявання. Пасля заканчэння конкурсу найбольш здольныя з яго ўдзельнікаў пачалі заняткі ў школе менеджэраў.
НА ЗДЫМКУ: удзельнікі гульняў (злева направа) інжынер-тэхнолаг Лілія ГАРБАЧОВА, начальнік цэха Віктар НІКІЦІН і механік Ігар АСТАШКЕВІЧ абмяркоўваюць атрыманае заданне.

ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ

## ГРАНІ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Пагадненне аб прамым навуковым супрацоўніцтве паміж акадэміямі навук Беларусі і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі падпісалі ў Мінску прэзідэнт АН БССР акадэмік Уладзімір Платонаў і першы віцэ-прэзідэнт АН ГДР акадэмік Ульрых Хофман. Праграмай сумеснага навуковага пошуку прадугледжаны даследаванні ў галіне матэрыялазнаўства для патрэб ядзернай энергетыкі. Узаемна карыснымі будуць намаганні па вывучэнню сейсмічнасці, выкліканай горнымі прамысловымі аб'ектамі, аналіз глыбінных разломаў зямной кары. Вялікія надзеі звязваюцца з каардынацыяй фундаментальных і прыкладных даследаванняў у імуналогіі, мікрабіялогіі, цепла- і масаабмене. Прадугледжана ў перспектыве наладзіць супрацоўніцтва і вучоных-грамадазнаўцаў.

Пагадненне аб прамым супрацоўніцтве дае магчымасць больш аператыўна вырашаць творчыя пытанні, дзякуючы разумнаму падзелу працы, зменшыць кошт даследаванняў, дапаможа хутчэй укараняць іх вынікі ў практыку. Гэта ўжо трэцяе такое пагадненне. Раней былі падпісаны дакументы аб супрацоўніцтве з Польскай акадэміяй навук і Акадэміяй навук і мастацтваў Славеніі.

КІРМАШ-АЎКЦЫЁН

## «БелАЗ»—З МАЛАТКА

Дзе можна свабодна купіць аўтамабіль «БелАЗ»? Яшчэ нядаўна гаспадарнікам было б цяжка адказаць на гэта пытанне. А сёння адказ ёсць: на кірмашы-аўкцыёне ў Мінску.

Дзяржаўныя прадпрыемствы і кааператывы атрымаюць тут цудоўную магчымасць прадаць і купіць звышпланавую і лішнюю прадукцыю, другасную сыравіну, нават тэхнічныя ідэі. Больш сарака назваў вырабаў, у ліку якіх шматтонныя грузавікі і вылічальная тэхніка, аўтобусы і пагрузчыкі, трактары і электрарухавікі, прапануюць арганізатары — спецыялісты Рэспубліканскага камерцыйнага цэнтра пры Дзяржаўным забеспячэнні БССР. Заяўкі на ўдзел у кірмашы прыслалі прыкладна чатыры тысячы чалавек — прадстаўнікі ўсіх эканамічных рэгіёнаў краіны, краін — членаў СЭУ і Югаславіі. Выхад на знешні рынак важны і для самога цэнтра. Паставіўшы перад сабой задачу расшырыць камерцыйныя і інфармацыйна-пасрэдніцкія паслугі, павялічыць аб'ём камісійнага гандлю, тут вымушаны самі шукаць свабодныя вытворчыя магутнасці для размяшчэння заказаў на востраддэфіцытную прадукцыю.

Кульмінацыяй кірмашу, па задуме яго арганізатараў, павінен стаць аўкцыён, у якім сваю прадукцыю прапануюць мінскія трактарны, маторны заводы, аб'яднанне «БелаўтаМАЗ», магілёўскі завод «Электрарухавік», вільнюскае вытворчае аб'яднанне «Сігма», іншыя прадпрыемствы краіны. Вырабы, выпушчаныя ў 1988 і 1989 гадах, будуць прадавацца і кааператарам.

На рахунку ў камерцыйнага цэнтра ўжо чатыры падобныя мерапрыемствы, дзе заключана 2 600 гандлёвых здзелак на суму 11 мільёнаў рублёў. Пасля правядзення красавіцкага кірмашу плануецца пераўтварыць яго ў пастаянна дзеючы: з прадстаўнітцвам арганізацый, міжгароднімі тэлефонамі, тэлеграфам, выстаўкай узораў новай тэхнікі.

МІЖНАРОДНЫЯ ПЕРАВОЗКІ

## У САМАЛЁТАЎ — НАВАСЕЛЛЕ

З аэрапорта «Мінск-2» пачалі лятаць лайнеры за рубеж. Тут адкрыты міжнародны сектар. Перавод зарубежных рэйсаў са старога аэрапорта, які знаходзіцца ў межах горада, прынясе прыкметны экалагічны эфект.

Прасторны аэравакзал абсталяваны надзейнай сучаснай тэхнікай. Тэлескапічныя трапы дазваляюць прайсці ў самалёт непасрэдна з залы чакання. Нямала часу эканоміцца дзякуючы электронным сістэмам рэгістрацыі і транспарціроўкі багажу. Прапускная здольнасць сектара — 600 чалавек у гадзіну.

Гэтага дастаткова, каб справіцца з пасажырапатокам, хуткі рост якога абумоўлены развіццём замежнага турызму, прамых дзелавых сувязей. З часам расклад папоўніцца новымі рэйсамі. Напрыклад, ужо праз месяц адкрыецца «варшаўская» лінія. Больш стане так званых чартэрных, гэта значыць нерэгулярных рэйсаў. У гэтым годзе іх плануюць заказаць Лісабон і Варна.

СУСТРЭЧА ЭСПЕРАНТЫСТАЎ

## МОВА ДРУЖБЫ

Шасцідзесяцічатырохгадовы англічанін Эрык Уокер лёгка знайшоў агульную мову з маладымі людзьмі з 12 краін свету, якія сабраліся ў маладзёжным цэнтры «Юнацтва» каля Мінска. Тут праходзіла міжнародная сустрэча эсперантыстаў. Яна арганізавана па ініцыятыве новай грамадскай арганізацыі СССР — Фонду эсперантысцкіх маладзёжных мерапрыемстваў.

Эрык Уокер адзін з двухсот удзельнікаў сустрэчы — урачоў, студэнтаў, служачых, рабочых з СССР, ЗША, Ганконга, многіх краін Еўропы.

У праграме сустрэчы — семінары па праблемах эсперанта, на якім, дарэчы, 1 красавіка прайшлі жартоўныя міжнародныя спаборніцтвы па гумару, адбыліся канцэрты і выступленні перад мясцовай моладдзю.

ЭКАЛОГІЯ

## САБРАЛІСЯ «ЗЯЛЁНЫЯ»

Дрэва і яго крона, контуры якой з'яўляюцца копіяй карты БССР, — эмблема першай інфармацыйнай сустрэчы прадстаўнікоў маладзёжных экалагічных клубаў рэспублікі, што адкрылася на доследна-вучэбнай базе Беларускага тэхналагічнага інстытута ў пасёлку Гарадзішча пад Мінскам. Каля 30 клубаў Беларусі прыслалі 98 дэлегатаў. У сустрэчы таксама прымаюць удзел прадстаўнікі студэнцкіх дружын па ахове прыроды, маладзёжных экалагічных лабараторый пры цэнтрах навукова-тэхнічнай творчасці моладзі, прадстаўнікі Дзяржкампрыроды, Акадэміі навук, Саюза пісьменнікаў БССР.



Менш двух гадоў віцебскаму кааператыву «Будаўнік», аднак вядомасць і аўтарытэт у маладой фірмы сапраўды зайздросныя. Каля паўсотні чалавек займаюцца рамонтам і будаўніцтвам жылля, гаражоў, садовых домікаў. І не толькі для прыватных асоб. Кааператыў хутка і якасна выконвае заказы па рамонту і мастацкаму аздабленню дзіцячых дашкольных устаноў, бальніц, іншых аб'ектаў сацыяльнай сферы, да якіх раней у сур'ёзных падрадчыкаў проста рукі не даходзілі. Толькі ў мінулым годзе кааператары выканалі больш чым на паўмільёна рублёў розных паслуг, а ў гэтым — замахнуліся на мільён. Заробленыя сродкі дазваляюць ім больш трывала стаць на ногі, разгарнуць справу яшчэ шырэй. Значную суму кааператыў пералічыў ва Усесаюзны дзіцячы фонд імя Леніна.

НА ЗДЫМКАХ: за аздабленнем дзіцячага сада; такія дамы па заказах насельніцтва будуюць кааператары.

Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.

*ЧАС ВЯЛІКІХ ЗМЕН*

# ВЯСКОЎЦЫ ВЫБРАЛІ АРЭНДУ

**Гэты крок выклікаў павышаную ўвагу да гаспадаркі з боку калег-аграрнікаў не толькі вобласці і рэспублікі, але і суседняй Прыбалтыкі. Прыязджалі кіраўнікі і спецыялісты, падрабязна распытвалі пра тое, навошта даволі моцнай па паказчыках гаспадарцы рызыкаваць.**

**Што ж адбылося ў калгасе «50-годдзе Кастрычніка» Маладзечанскага раёна? Сёлета, з 1 студзеня, ён першым у раёне перайшоў на арэнду.**

Як вядома, маўчанне — не заўсёды згода, нават тады, калі табе ківаюць галавой, падтакваюць. У застойны час прывучылі многіх з нас да механічнага адабрэння розных заклікаў і лозунгаў, якія ў вялікай колькасці спускаліся «зверху» для безумоўнай падтрымкі масамі. Менавіта тады ў значнай частцы радавых працаўнікоў саўгасаў і калгасаў складалася ўяўленне, што ў арганізацыі сельскай гаспадаркі любая навінка — гэта дадатковыя сродкі і метады прымусіць іх больш інтэнсіўна працаваць без асаблівай маральнай і матэрыяльнай кампенсацыі за працу. Знешне быццам бы людзі былі «за», а на самай справе...

Вось і кіраўнікам калгаса «50-годдзе Кастрычніка» да пары здавался, што ў карысці ўкаранення гаспадарчага разліку, за які так настойліва агітавала праўленне, ніхто ўжо не сумняваецца. Чыталі лекцыі, наладзілі эканамічную вучобу, праводзілі іншыя мерапрыемствы. І не без поспеху. Увогуле гасразлік, як кажуць, «пайшоў». Былі ўведзены розныя формы аплаты працы вадзіцеляў, механізатараў. Праз год і жывёлаводаў перавялі на гасразлік. Яны самі ўжо дзялілі заробленыя грошы. Прэтэнзій з іх боку да адміністрацыі, здаецца, не было.

Раптоўна, як снег на галаву, здарыўся «бабін бунт» на жывёлагадоўчым комплексе «Зоранька». Даяркі ў сярэдзіне дня паставілі даільныя апараты і рашуча заявілі: не будзем працаваць, пакуль нам не вернуць поўнасцю ўвесь заработак за мінулы месяц. Нарэшце, дамовіліся: даяркі ўсё ж правядуць вячэрнюю дойку, а пасля да іх прыедзе старшыня А. Мучынскі, работнікі бухгалтэрыі комплексу і ўсе разам разбяруцца ў прычынах канфлікту.

Каб размова была прадметнай, кіраўнікі прыхапілі з сабой дакументы, па якіх налічвалася зарплата даяркам за апошнія тры гады. З алоўкам у руках, на канкрэтных лічбах пераканалі жанчын, што падману няма, і не гасразлік вінаваты, што яны нечакана атрымалі грошай менш. Канфлікт быў ліквідаваны. Але ён стаў урокам для многіх. Новыя формы гаспадарання — не такая ўжо простая рэч. Да таго ж прыгадалася і што работа вялася па-ранейшаму — як маналог з боку адміністрацыі. Насцярожанасць, непаразуменні, непрыняцце новых метадаў гаспадарання ў часткі калгаснікаў зноў хаваліся за маскай маўклівай згоды. Тады і вырашылі: без актыўнага ўдзелу ўсіх сялян нічога добрага не атрымаецца. Але трэба ж было знайсці такі падыход да кожнага калгасніка, каб яны не па загаду, а без націску, па ўласнаму жаданню, зыходзячы са сваіх кроўных інтарэсаў, адчулі ў арэндзе шлях вяртання зямлі гаспадарам.

Паступова выспела думка стварыць групу па вывучэнню грамадскага меркавання наконт арэнды. Тры месяцы запар ішла напружаная праца. Трэба было абысці ўсе без выключэння падраздзяленні калгаса і спытаць людзей, ці патрэбна ім арэнда. Не абмінулі нават дробную ферму, дзе працуюць усяго тры чалавекі.

У ходзе тых сустрэч людзі пыталіся пра рознае. Нават такое даводзілася чуць кіраўнікам: а ці верыце вы самі ў арэнду? Можа зноў чарговую кампанію праводзіце? І калгаснікам цярпліва тлумачылі: арэнда — рэальны шлях стаць селяніну паўнаўладным гаспадаром сваёй зямлі, свабодным ад бюракратычнага панукання, некампетэнтнага умяшання, камандавання з боку чыноўнікаў, што, нягледзячы на ўсе перашкоды, арэнда праб'е сабе дарогу.

І вось адбыўся сход, на якім павінен быў вырашыцца далейшы лёс калгаса. Народу сабралася поўная зала. У кароткім уступным слове расказалі аб выніках дзейнасці групы апытання грамадскай думкі. Яшчэ раз нагадалі аб добраахвотным прынцыпе пераходу на арэнду. Хто не хоча быць арандатарам, няхай працуе па-ранейшаму. Для арандатараў таксама свабода выбару. Калі нейкі калектыў ці чалавек палічыць, што ён можа абысціся без праўлення калгаса, калгаснай бухгалтэрыі, адміністрацыя дапаможа адкрыць асобны рахунак у банку. Далей слова было за сялянамі. І яны выказаліся за арэнду.

І ўжо некалькі месяцаў працуюць па-новаму. Якія ж адбыліся перамены? Арганізавалі кааператывы па тэхналагічнаму прынцыпу — «мяса», «малако», «будаўнік» і г. д. Ёсць кааператыў па вырошчванню спартыўных коней. Мяркуюць такім чынам нават валюту зарабіць.

Ва ўсіх кааператывах калгаснікі выбралі сваіх кіраўнікоў, бухгалтараў, якія вядуць справы. Фермамі, іншымі падраздзяленнямі цяпер загадваюць старшыя арандатары. Значна скараціўся апарат кіравання калгаса.

А ці мяняюцца адносіны калгаснікаў да справы? Мяняюцца. Аб глабальных пераменах яшчэ пакуль рана гаварыць. Аднак ужо відавочна: у людзей прачынаецца пачуццё гаспадара, набываецца ўменне лічыць грошы, прыход і расход, з'яўляецца ашчаднасць. Вось прыклады.

Вадзіцеляў, як раней, зараз «за бутэльку» не ўгаворыш на «левы» рэйс. Нявыгадна ім. Бо затраты на бензін, амартызацыя машыны, час, які сёння строга падлічваецца вадзіцелем-арандатарам, пераважвае тую бутэльку гарэлкі. А як жа тады быць калгаснікам, асабліва старым бабулям і дзядулям, якіх прывучылі па гэтай «п'янай» таксе разлічвацца за паслугі? У калгасе падлічылі патрэбы кожнага вяскоўца двара. Каб сумясціць інтарэсы вадзіцеляў і вяскоўцаў, зрабілі так: кожнаму гаспадару выдалі кніжачку талонаў, якімі ён разлічваецца з вадзіцелямі за прывоз дроў, матэрыялаў і г. д. Адзін талон каштуе 3 рублі 61 капейку. Потым згодна з колькасцю талонаў вадзіцелю выплачваюцца грошы з касы калгаса. Гэтыя расходы калгасу абыдуцца прыкладна ў 70 тысяч рублёў. Сума на фоне паўтара мільёна чыстага прыбытку гаспадаркі невялікая.

Прыемна бачыць, што арэнда стымулюе павышэнне прадукцыйнасці працы, максімальнае выкарыстоўванне абсталявання і тэхнікі. Тыя ж вадзіцелі цяпер нярэдка просяць даваць максімальнае заданне на дзень, бо яны ў сілах выканаць большы аб'ём перавозак. І такіх прыкладаў шмат. Яны — першыя парасткі новых вытворчых адносін, калі не галоўныя спецыялісты прымушаюць радавых добрасумленна выконваць свае абавязкі, а радавыя знізу падштурхоўваюць сваіх кіраўнікоў варушыцца, думаць і шукаць новыя формы гаспадарання.

Дарэчы, з'явіліся ў калгасе, нарэшце, і камп'ютэры — тры «Рабатроны». Хутка набудуць яшчэ адзін і тады, пэўна, адмовяцца ад паслуг раённай машыналічыльнай станцыі. Навошта плаціць тысячу рублёў у месяц, калі самі ў сілах апрацоўваць інфармацыю.

Зразумела, шмат праблем узнікае ў сувязі з пераходам на арэнду. Арандатары пытаюцца, як будзе рэалізоўвацца звышпланавая прадукцыя кааператываў пасля выканання дагавора з калгасам. Тут павінна быць поўная свабода арандатараў, лічаць у праўленні. Захочуць, няхай прадаюць на рынках Беларусі, іншых рэгіёнаў краіны, дзе ім больш выгадна. Можа здарыцца, што і калгас набудзе гэтую прадукцыю па рыначнай цане. Галоўнае, арандатар павінен быць упэўнены, што на яго правы распараджацца звышпланавым мясам ці бульбай ніхто не будзе замахвацца. Гэта таксама дадатковы стымул павышэння ўраджайнасці, прадукцыйнасці жывёл. Са свайго боку, праўленне імкнецца ствараць умовы для плённай працы кааператываў. І перш-наперш узмацніць іх матэрыяльную базу. Таму вырашылі не скупіцца і штогод накіроўваць на будаўніцтва мільён рублёў.

Л. ТУГАРЫН.

ГАРАДСКІ ДЫСКУСІЙНЫ КЛУБ

## «ЭКАНАМІСТ І ПЕРАБУДОВА»

— так называецца гарадскі дыскусійны клуб, які пачаў дзейнічаць пры Інстытуце эканомікі Акадэміі навук БССР.

— Свабодны абмен думкамі, — расказвае Юрый Крываروцька, адзін з кіраўнікоў клуба, — апрабацыя даследаванняў маладых вучоных-эканамістаў, папулярызацыя эканамічных ведаў — вось чаго мы будзем дабівацца.

Як бачым, справа патрэбная. Гэта яшчэ адна сур'ёзная магчымасць актывізаваць эканамічную думку ў рэспубліцы. Тым больш, што тэмы, намечаныя планам работы клуба, актуальныя. Напрыклад, запланаваны дыскусіі па пытаннях цэнаўтварэння, па мадэлях гасразліку, аб ролі грамадскіх арганізацый у фарміраванні эканамічнай стратэгіі дзяржавы. Вядома, чакаць ад такіх дыскусій якіх-небудзь імгненных вынікаў не даводзіцца. Але ж не менш важна забяспечыць заўтрашняе развіццё народнай гаспадаркі навуковай базай, выпрацаваць канкрэтныя эканамічныя праграмы. І хто сказаў, што маладым вучоным гэта не пад сілу?

Першая дыскусія, што нядаўна прайшла ў клубе, сабрала амаль поўную залу. Абмяркоўваўся эканамічны механізм гасразліку на ўзроўні рэгіёнаў — тэма адносна новая, а таму пакуль недастаткова распрацаваная. З аналізам ужо існуючых у Прыбалтыйскіх рэспубліках і Свярдлоўскай вобласці канцэпцый рэгіянальнага гасразліку выступіў кандыдат эканамічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі АН БССР Уладзімір Фацееў.

У. Фацееў прапанаваў для абмеркавання сваю канцэпцыю гаспадарчага разліку рэгіёнаў. Грунтуецца яна на праве саюзнай рэспублікі выкарыстоўваць і распараджацца часткай рэсурсаў, размешчаных на яе тэрыторыі. У гэтую частку вучоны ўключае ўсе рэсурсы біясферы, усе аб'екты сацыяльнай інфраструктуры, аб'екты вытворчай інфраструктуры, прызначаныя для абслугоўвання рэгіянальнай вытворчасці, аб'екты ўласнай вытворчасці, якія скарыстоўваюць галоўным чынам мясцовыя рэсурсы, асноўная доля прадукцыі якіх спажываецца на тэрыторыі адпаведнай рэспублікі ці вобласці, і аб'екты экалагічнай інфраструктуры, звязаныя з захаваннем і ўзнаўленнем навакольнага асяроддзя ў рэгіёне.

У ходзе дыскусіі шмат спрачаліся. Выказвалася апаска, што толькі перадачай права валодання рэсурсамі з цэнтра краіны ў цэнтр рэспублік сама структура гаспадарчага механізма не закранаецца. Сумняваліся, што без добра адладжаных рынкавых адносін сістэма рэгіянальнага гасразліку зможа даць адчувальны вынік.

Але ўсе гэтыя сумненні, апаскі, альтэрнатыўныя прапановы і ёсць прыкметы дзелавых дыскусій, адзіна здольных прывесці да выпрацоўкі эканамічных канцэпцый. Канцэпцый, якія вызначаць шляхі далейшага развіцця нашай эканомікі.

ИДЕОЛОГИЯ В РАКУРСЕ ПЕРЕСТРОЙКИ

# МАЛЕНЬКАЯ ПОБЕДА — БОЛЬШИЕ ПЕРСПЕКТИВЫ

СТУДЕНТЫ факультета журналистики Московского университета, поддержанные деканатом и партбюро, добились того, чтобы со здания университета сняли мемориальную доску в честь Михаила Суслова. Не столь уж значительное, в сущности, событие в бурном течении общественной жизни периода перестройки. Тем не менее оно приобретает глубокий смысл, если вспомнить, что в течение длительного времени застоя Суслов был главным идеологом партии. Без преувеличения можно сказать, что в глазах общественности он стал идеологическим символом застоя.

### ОТ КРИТИКИ ИЗВРАЩЕНИЙ К АНАЛИЗУ ПРИЧИН

XXVII съезд партии и XIX партконференция пришли к выводу, что перестройка немыслима без отказа от идейных и политических догматов прошлого при сохранении стратегической ориентации на социализм.

Надо сказать, что критика извращений социализма, особенно в первые годы перестройки, носила чаще всего характер критики Сталина. Инерционно она продолжается и сейчас, хотя становится все более углубленной. От анализа «деяний» Сталина и его окружения социологи и публицисты переходят к осмыслению причин и истоков извращений. Критика Сталина была, если так можно сказать, в некотором роде «эвфемизмом» концептуальной критики. Дело в том, что в течение многих десятилетий мощнейший пропагандистский аппарат, созданный «административной системой», внушал населению мысль о незыблемости «основ», имея в виду под ними собственную трактовку социализма. Результаты «промывки мозгов» привели к тому, что даже в начальный период перестройки, когда партия стала решительно пересматривать практически весь комплекс внутренней и внешней политики, идеология оставалась запретной зоной для критики. Она была тем бастионом, где консервативные силы общества заняли поистине круговую оборону, демагогически запугивая население тем, что-де идеологическое переосмысление представляет собой чуть ли не угрозу социализму. Пытаясь избежать чрезмерной конфронтации между сторонниками и противниками перестройки, что, по мнению ряда обозревателей, могло бы перекалить политическую обстановку в стране, Михаил Горбачев неоднократно выступал с разъяснением, что «перестройка — это время нестандартных, непривычных решений, время поиска и ломки вчерашних догм».

Однако именно ломка идеологических догм проходит в стране особенно сложно, противоречиво и, я бы сказал, зигзагообразно. Консервативные силы, вынужденные после длительных боев сдавать свои позиции в сфере экономики (в стране, наконец, открыто провозглашена общественная полезность рынка, аренды, коллективного и семейного подряда, кооперативов), продолжают цепляться за дискредитировавшие себя символы.

### ПОБЕДА ИНТЕЛЛИГЕНЦИИ

Такими символами-монументами идеологии прошлого были Жданов и Суслов. О том, насколько нелегко давались интеллигенции победы на этом поле брани, свидетельствует тот хотя бы факт, что силам перестройки потребовалось три года, чтобы добиться отмены печально известного постановления ЦК КПСС от 1948 года «О журналах «Звезда» и «Ленинград». В последние десятилетия оно не действовало, а имена писателей Михаила Зощенко и поэтессы Анны Ахматовой, против которых в постановлении содержались вульгарные выпады, давно возвращены в золотой фонд советской культуры. Но тот факт, что даже в атмосфере перестройки общественному мнению потребовалось несколько лет, чтобы официально «похоронить» этот «шедевр» сталинско-ждановской идеологии, свидетельствует о том, что сторонники идеологического обскурантизма еще сильны.

Особенно неохотно консерваторы уступают там, где речь идет о сравнительно недавних временах, детищем которых они собственно и являются. И если понятие «ждановщины» в глазах населения уже давно стало одиозным, то Суслов, который, по мнению ряда советских обществоведов, нанес, может быть, даже больший вред идее социализма, чем Жданов, до самого последнего времени оставался «неприкасаемым».

### ИДЕОЛОГИЯ И ЖИЗНЬ

Студентам факультета журналистики МГУ потребовалось полгода, чтобы добиться снятия мемориальной доски Суслову. Победа маленькая, но символическая, многообещающая. Многообещающая в том смысле, что за этим символом стоит глубокий и, безусловно, непростой процесс осмысления реального места идеологии в жизни страны.

Выступление Михаила Горбачева в Организации Объединенных Наций, давшее миру столько новых надежд, его призыв к «деидеологизации международных отношений» не является случайным озарением смелого политика. Это плод сложных размышлений о роли и месте идеологии не только в международных отношениях, но и внутри страны. Помня об известном принципе, что внешняя политика есть продолжение внутренней, можно предположить, что «деидеологизация» неминуемо коснется, в сущности, уже касается, и внутренней жизни Советского Союза. К тому же М. Горбачев подчеркнул в ООН, что у нас не должно быть ценностей «в экспортном исполнении».

Разумеется, речь не идет об отмене идеологии. Речь идет о том, чтобы идеология заняла подобающее ей место в общественной и экономической жизни страны. Чтобы она стимулировала обновление общества, а не запихивала его в холодильную камеру. СССР не намерен отказываться от социалистического пути. Об этом неоднократно заявляли советские лидеры. Но, как пояснил с трибуны ООН Михаил Горбачев, «мы не собираемся замыкаться в кругу своих ценностей». Это вело бы к духовному оскудению, ибо означало бы отказ от такого мощного источника развития, как обмен всем тем оригинальным, что создается каждой нацией самостоятельно.

**Вячеслав КОСТИКОВ.**

НОВОЕ РЕШЕНИЕ СТАРОГО ВОПРОСА

# ХЛЕБ И ПОЛИТИКА

БОЛЬШЕВИСТСКИЙ лозунг «Земля крестьянам!» предопределил успех Октябрьской революции в России. А последующие зигзаги «крестьянской политики», левацкие перегибы «военного коммунизма», введение «продразверстки» (насильственного изъятия хлеба из села) привели к нарушению нормальных экономических и политических отношений в стране, положили начало деформации социализма.

Ленин разглядел опасность для революции в отталкивании крестьянства и в противопоставлении его интересов интересам городского пролетариата. Весной 1921 года, несмотря на сопротивление «левых» в ЦК партии, Ленин начинает НЭП — новую экономическую политику. Идейному «пуританизму» сторонников Троцкого Ленин предпочитает прагматический и экономический подход. Во время НЭПа была восстановлена свободная торговля и рынок сельхозпродуктов, сняты запреты с кооперативного движения, в разумных пределах было разрешено использование наемного труда.

Результаты не замедлили сказаться. Смягчилась социальная напряженность, прекратились крестьянские волнения, сделались ненужными военизированные «продотряды», занимавшиеся изъятием хлеба в деревне. Деревня вздохнула свободно и начала работать. В стране, еще недавно пораженной сильнейшим голодом (1921 год), образуются излишки хлеба, которые стали поступать на мировой рынок.

Однако вскоре после смерти Ленина по крестьянскому вопросу вновь разгорелась борьба между «левыми» и «правыми». В силу ряда объективных и субъективных причин верх одержали сторонники Сталина и экономиста Преображенского, развивавшего теорию «социалистического накопления» за счет безвозмездной перекачки средств из деревни в промышленность.

Аграрная политика Сталина привела к уничтожению возникших при НЭПе демократических институтов, которые при их дальнейшем укреплении могли бы развиться в формы политического плюрализма.

Произведенная Сталиным и его «левыми» сторонниками ревизия НЭПа фактически была скрытой формой политического переворота и привела, по словам М. Горбачева, «к созданию принципиально новой политической и социальной обстановки в стране». Строй, основывавшийся на принципах демократии, был заменен строем насилия. Для внеэкономического регулирования аграрного «сектора» центр вынужден был создать огромную армию контроля и принуждения.

Мартовский пленум 1989 года является по сути дела первой после смерти Ленина попыткой решить «крестьянский вопрос» не путем администрирования и частных уступок деревне, а принципиально, политически.

Речь идет о возвращении к идее, которая принесла успех большевикам в революции 1917 года: хозяином земли должен быть тот, кто на ней живет и работает.

Речь, однако, идет не об отмене колхозного уклада. Ведь многие колхозы являются экономически крепкими и зажиточными хозяйствами. Их искусственное расформирование было бы очередным «перегибом». Но в рамках колхозной системы крестьянам предоставляются широкие права на аренду, семейный подряд и личное землепользование. Уравниваются в правах различные формы социалистической собственности, в том числе восстанавливается право на личное крестьянское хозяйство. Эти новые идеи, одобренные пленумом ЦК КПСС, закрепляются законодательно. Принят Указ Президиума Верховного Совета СССР.

Но уже сейчас в двух тысячах районов ликвидируется аппарат, который осуществлял силовую политику центра в деревне. Запрещено вмешиваться в хозяйственные дела колхозов, совхозов и индивидуальных крестьянских хозяйств партийным и советским органам. Все функции экономической власти и управления на селе передаются самим производителям и их добровольным объединениям.

ОРГАНИЗОВАННАЯ ПРЕСТУПНОСТЬ В СССР

# КОРНИ И КРОНА

Прошлым летом советские газеты рассказали о пышных похоронах на Ваганьковском кладбище в Москве. Коллеги по «работе» хоронили «вора в законе». Этот не очень знакомый многим даже в СССР термин обозначает представителей образовавшейся в стране полвека назад преступной касты, живущей по собственным законам, каковыми являются принимаемые на воровских сходках «правила поведения».

Нельзя сказать, что с этой кастой в СССР не велась борьба. И все же уголовная репрессия на протяжении долгих лет сталинщины служила главным образом политическим целям. В пятидесятые-шестидесятые годы положение изменилось, однако и тогда существование в стране профессиональной преступности стыдливо умалчивалось — в результате социальная болезнь загонялась вглубь. Кстати, именно в те годы окончательно сформировались и отличительные черты «профессионалов» преступного мира. Каковы же они?

Во-первых, преступление для «вора в законе» — единственный и основной источник дохода.

Во-вторых, существует так называемый «общак» — своеобразная страховая касса, куда обязаны вносить свою дань все преступники-профессионалы, от мелких воришек до опытных шулеров и вооруженных бандитов. «Общак» снабжает деньгами тех, кто находится в местах заключения, помогает их семьям на воле и им самим после освобождения.

И наконец, в-третьих, работают преступники-профессионалы не где придется, а лишь в местах, отведенных «коллегами» в сферу их влияния.

Что удивительно, эта почва оказалась способной плодоносить. Лет десять назад на ней взошли первые ростки ультрасовременной преступности, которую многие в СССР — по аналогии с Италией и США — стали называть мафией. Ее главная отличительная черта, по мнению криминологов, заключается в том, что эта новая, организованная преступность, в отличие от породившей ее профессиональной, может существовать лишь тогда, когда имеет контакт с представителями власти.

Недавно в Узбекистане, например, была обезврежена банда, возглавляемая неким Анзоровым и состоявшая из четырех десятков головорезов. За три года они совершили 64 тяжких преступления. В состав банды наряду с прочими входил майор милиции, за крупную взятку препятствовавший ее разоблачению.

Сращение преступного мира с органами правопорядка в некоторых регионах страны в недавнем прошлом зашло настолько далеко, что в том же Узбекистане за взяточничество и другие злоупотребления в последние годы были привлечены к уголовной ответственности 98 процентов руководителей областных управлений внутренних дел, бывшие министры внутренних дел республики и их заместители. «Завязаны» с преступниками оказались и другие высокопоставленные лица.

Как же это произошло? В чем корни подобных явлений? Ответ на эти вопросы следует искать в атмосфере семидесятых годов, в разросшейся тогда «теневой» экономике.

Она явилась порождением господствовавшей в то время административно-командной системы управления народным хозяйством, предполагавшей, в частности, распределение ресурсов и материалов по выделяемым свеоху фондам. Поскольку фонды эти далеко не всегда были реально обеспечены, их нехватка рождала дефицит. Некоторые из руководителей тех предприятий, кому он не доставался, направляли специальных «толкачей», чтобы его добыть. Разумеется, не безвозмездно. Взятки шли, как правило, не только плановикам, от которых зависело распределение дефицита, но и тем представителям органов внутренних дел, которые соглашались накрыть эти незаконные операции «зонтиком безопасности». Затраченные деньги возмещались также незаконными способами, в число которых входило изготовление «левой» или неучтенной продукции. Ее, в свою очередь, нужно было реализовать...

Сегодня в сферу внимания мафии попали активно создающиеся новые кооперативы.

Этой осенью, скажем, у Ярославского вокзала в Москве собралось около пятисот водителей, занимающихся частным извозом. Они ждали назначенной встречи с рэкетирами, которые предъявили ультиматум: «по 150 рублей в месяц с машины за охранную грамоту». Но таксисты не испугались, сплотились, и рэкет не удался.

Конечно, в борьбе с ним нельзя полагаться лишь на сопротивление «снизу». Сейчас во всех территориальных органах Министерства внутренних дел СССР создаются специализированные подразделения по борьбе с организованной преступностью. Разрабатываются также дополнения к законодательству, предусматривающие ужесточение уголовной ответственности за организаторскую преступную деятельность и за участие в преступных сообществах и повышающие гарантии правовой защищенности выступающих по этим делам свидетелей.

**Лев СИМКИН,**
**кандидат юридических наук.**

# DETENERSE ES RETROCEDER

**El auditorio de lectores de Fazil Iskander siempre ha sido muy amplio. Pero en los últimos tres años el público pudo descubrir una nueva faceta de este singular novelista: vieron la luz obras que durante largos años estuvieron archivadas en su escritorio. Entre éstas figuran "Los conejos y las boas", "Vieja casa bajo un ciprés". En la Editorial "Moskovski Rabochi" próximamente saldrá a la venta en tres tomos toda la novela "Sandró de Cheguem", conteniendo capítulos inéditos. Como dijera el propio escritor, la publicación de "Sandró" para él es el principal suceso literario del momento, por cuanto trató de expresar en la novela todas sus ideas, preocupaciones e inquietudes fundamentales. En general, dice Iskander, estamos viviendo la época de las publicaciones...**

*— A menudo es posible oír que muchas de las obras que permanecieron en las gavetas de los escritorios han perdido actualidad...*

— No voy a hablar de todo lo que fue sacado de los escritorios, ya que no soy un lector tan asiduo. Hay cosas que todo el mundo las percibimos como grandes logros de nuestra literatura, por ejemplo, la novela de Grossman o la de Dombrovski. Estas no solo no se han vuelto anticuadas; una obra verdaderamente artística, cual el vino añejo, con el correr de los años, se hace cada vez mejor. Es una tragedia que ésta no fuera publicada a su tiempo, pero el talento siempre se proyecta hacia el futuro, por lo cual no puede envejecer. Claro que también en el pasado se escribían obras que no podían ser publicadas debido a su agudeza política, mas objetivamente eran bastante superficiales. Asimismo, ahora se ve que son débiles. Por supuesto, sentimos un respeto cívico por el autor, pero si su libro no alcanza un elevado nivel artístico, caerá en el olvido.

*— También suele decirse que la tragedia que sufrió el país deviene un tema preferido, que cualquiera trata de dar de coces a Stalin. Esto ahora está de moda, se ha convertido en el "salvoconducto" de los órganos de prensa. Como resultado (y esto lo confirman los psicólogos), surge el efecto de la adaptación, el tema deja de interesar...*

— En efecto, esto es verdad. Pero en las conversaciones sobre este problema se deja sentir también la vieja tendencia de dirigir desde arriba el proceso mental del país. Existe una ley objetiva del mercado, la cual concierne, asimismo, a las obras literarias. Incluso yo diría que es una mística del interés humano, que se determina por el mercado. Justamente este último dará a conocer cuando el tema de Stalin deje de interesar al lector. Pero pienso que este tema siempre va a ser de interés, si cada vez el conocimiento acerca de este hombre, tanto como personalidad política y como portavoz de la historia y la época, representa un nuevo logro literario. Desde luego, en cierto momento —y éste ya ha llegado— obras banales, mediocres, que abordan este tema, comienzan a dejar de interesar a un lector más o menos desarrollado. Hay que avanzar cada vez más y no intentar cerrar o abrir un tema desde arriba, no volver al viejo y absurdo principio de dirigir el proceso cultural. A propósito, tales voces se oían, por lo general, desde el área de aquellas personas que por nada del mundo desean ver una nota crítica en nuestra literatura. Han pasado tan solo unos dos o tres años desde que comenzaron a aparecer obras literarias que desenmascaran a Stalin y sus secuaces, además de muchos de los horrendos fenómenos de nuestra vida de aquella época y, sin embargo, la gente exclama: ¡Basta! ¿Hasta cuándo? Y eso que durante cuarenta años estuvimos repitiendo lo mismo, poníamos por las nubes al corifeo de todas las ciencias, ¿acaso a nadie le surgía el deseo de decir "¡basta!"? Creo que tal deseo lo tenían muchos, pero si alguien hubiera intentado decir algo... Casi todos los libros de poesías debían comenzar con una oda al jefe máximo. Un sinnúmero de novelas terminaban con que Stalin aprobó, Stalin consintió, Stalin sonrió, Stalin aplaudió o Stalin salvó de un pérfido burócrata a un excelente inventor. Toda esta tontería imperial nos la inculcaron durante largos años y, es lógico, que a muchos no les caigan bien los cambios actuales...

*— En general, es un tema curioso: el estalinismo sin Stalin...*

Para la *nomenklatura*, en el amplio sentido de la palabra, es una postura extraordinariamente cómoda, cuando uno quiere arraigar por todos los medios posibles el estalinismo en la vida diaria, sabiendo de antemano que no desaparecerá de repente, como en la época de Stalin. Este brindó a su camarilla todos los privilegios salvo uno: dormir normalmente y mirar con tranquilidad al futuro. Todos ellos disponían de enorme poder, pero a la vez comprendían que en cualquier momento podían desaparecer para siempre. Mientras que ahora saben que nadie los va a tocar, no corren peligro alguno, pero desean conservar su poder y prestigio. Es una postura muy cómoda. Detectan cierto tipo psicológico que les es muy próximo, una afinidad, un deseo reprimido de aplastar a los demás.

*— De ahí que usted considere que es algo así como una psicología profesional que determina el culto. Pero existe la opinión de que su surgimiento estuvo condicionado por la psicología nacional...*

— Por supuesto, durante tres siglos en Rusia gobernó la dinastía de los Románov. Fue destronada, mas las ilusiones y la fe en el zar no desaparecieron por completo. Pero sabemos perfectamente que también Hitler llegó al poder en Alemania, Mussolini, en Italia, y Franco, en España... Pienso que lo común en todos estos fenómenos es el hecho de que a la palestra política irrumpieron enormes masas de personas no demasiado inteligentes, pero que aspiraban a serlo, poseedoras de un gran amor propio y, en su gran mayoría, con una moral poco desarrollada. Este tipo —el hombre del subsuelo— fue revelado y elaborado ingeniosamente por Dostoyevski. Ellos crearon su propio género de jefes. Por otro lado, el mundo en aquel entonces requería renovación. En Rusia y en Occidente había muchísima gente que se daba cuenta de que algo tenía que cambiar. En aquellas condiciones eran posibles distintos charlatanes, deformadores y dictadores. A ello contribuía la salida a la palestra política de un considerable número de individuos ambiciosos y semianalfabetos.

*— ¿Cree usted que esta gente quedó perjudicada al haber salido a la palestra política?*

— Tipológicamente, la ética de la conducta se formó durante siglos. Por ejemplo, un campesino se formó en el ambiente rural; un artesano urbano, en el de la ciudad. Ante las penurias e injusticias se rebelaban, se declaraban en huelga, pero ni siquiera pensaban en edministrar el Estado. El proceso de transición de su ambiente ético, formado a lo largo de siglos, en cierta ética de una persona culta, que debe determinar por su propia cuenta todo aquello que antes hacia por ella el ambiente, es muy complejo, sobre todo para quienes no están preparados por dentro para endosarse esta responsabilidad. Cuando esta semicultura abarcó enormes masas, se hizo posible todo lo que sucedería posteriormente...

*— ¿Cómo evaluaría usted, desde una perspectiva histórica, la advertencia de Plejánov respecto de que fue prematuro que el proletariado tomara el poder, por cuanto aún éste no había madurado socialmente?*

— Pienso que Plejánov no se equivocó al advertir que en nombre del proletariado iba a gobernar gente distinta. Precisamente eso fue lo que ocurrió. Sin embargo, la enorme flexibilidad de Lenin consistía justamente en que lo comprendió durante el transcurso de la revolución. La introducción de la nueva política económica devino un paso extraordinariamente audaz, o sea, con ello a la sociedad rusa se le brindaba la posibilidad de madurar. Yo considero que esto pudo haber ido efectuando bajo el control del partido.

Por supuesto, una gran parte del poder el partido la hubiera debido entregar, conservando solo el derecho al control en las cuestiones de mayor importancia. Supongo que ello era bien factible. Pero en aquel entonces se dejaron sentir complicados y casi inexplicables factores psicológicos. Imagínese: los bolcheviques de la clandestinidad, constantemente perseguidos, de repente obtienen el poder. Cayeron en una euforia tal que en cierto grado olvidaron para qué lo habían conquistado. Analizando la situación de la década del 20, veo una manifestación de generosidad y sensatez únicamente en la consigna de Bujarin: "Hagan dinero". El decía que era prematuro comenzar la colectivización. No obstante, en su momento no se mostró lo suficientemente firme, además de que ya era demasiado tarde. El testamento de Lenin evidencia que en su vida Stalin contaba con un poder absoluto.

*— También al comienzo de la perestroika corrimos el riesgo de caer en la euforia totalizadora. Al parecer, ahora hay mayor sensatez en la apreciación de los acontecimientos. Por ejemplo, ya no hablamos tanto de la aceleración.*

A decir verdad, esta consigna desde el principio no me gustó. A la aceleración exhortaban también en los años 20. Lo que ocurre es que, en general, no hay que instigar a nadie. Siempre he considerado que la emulación socialista en nuestra vida social y económica desacredita al Estado. Este no debe emprender pasos que susciten la sonrisa irónica de sus ciudadanos. Cualquier Estado ha de aspirar al prestigio de la sabiduría y al prestigio de los conocimientos de la naturaleza de las cosas. Una consigna que exhorte a la emulación puede ser válida en un año crucial, cuando, por ejemplo, ha terminado una guerra y llama al pueblo a que resista durante un par de años ya que luego será mejor... Pero después la vida debe entrar en su cauce normal. Jamás se debe obligar a un trabajador a que cada día revele su cuota de heroísmo personal, ya que ello, indefectiblemente, terminará en la depresión, en el abuso diario de bebidas alcohólicas...

*— ¿Con qué relaciona usted sus esperanzas? ¿Qué es lo que más le preocupa en la actualidad?*

— Me preocupan las fuerzas centrífugas que se han despertado en nuestro Estado multinacional, la irritación y la intolerancia que se han exteriorizado debido a ello. La perestroika llegó en un momento en que la nación se hallaba en un deplorable estado moral, psíquicamente agotada. En el trasfondo del salvajismo universal el problema nacional se ha hinchado como un tumor maligno. Sin embargo, cifro grandes esperanzas en que el futuro de una nueva Rusia democrática radique en la unión de todos nuestros pueblos. Para ello Moscú ha de convertirse en el centro que elabore las ideas más interesantes, las concepciones filosóficas más audaces. En otras palabras, debe ser un centro espiritual, y no administrativo, del país, desde el cual durante largos años venían, por lo general, solo instrucciones primitivas, basadas únicamente en la fuerza administrativa: si no cumples lo prescrito, te echarán del trabajo o te meterán en la cárcel. Pero un país tan enorme y multinacional como el nuestro no puede existir a base de estos principios. Este puede fundamentarse solo en las hermosas ideas que proporciona el centro. Además, este último ha de mostrar a todo el país y todos los pueblos el sentido de la ley. Por un lado, su universalidad; por el otro, su absoluta severidad. Y cada hombre debe tener claro a qué se debe tal severidad. O sea, de una vez por todas, tenemos que llegar a un Estado de Derecho en el cual rija la Ley, y no tal o cual personalidad.

Próximamente, en la dirigencia del país deben entrar gente fuerte, honesta, pensante, tales como, por ejemplo, los académicos Sájarov y Lijachov. Gente de este tipo debe, sin falta, formar parte del gobierno, y es importante que en caso de que no estén de acuerdo con una u otra actividad de la *dirigencia del* país, ellos tengan la posibilidad de acudir al pueblo, lo cual ayudaría a la dirigencia a prevenir serios errores. Lamentablemente, toda nuestra historia está impregnada de errores, por cuanto nunca hubo una conexión inversa, jamás se consultó con la gente; el gobierno hacía aquello que le parecía ventajoso en el momento dado. También quiero mencionar otra medida de la cual ahora se habla mucho: creo que ha llegado el momento en que cueste lo que cueste es necesario hallar recursos para resolver el problema alimentario lo más pronto posible. Al menos, salir de esta situación desastrosa, pedir ayuda a cualesquiera condiciones, pedir dinero prestado... No se puede estar prometiendo durante 70 años sin dar nada a cambio. Y lo último: de ningún modo hay que reducir el paso de la glásnost. Detenerse es retroceder.

*Entrevistó*
**Elena VESIOLAYA**

## EN LA TIERRA NATAL



*Plaza V. I. Lenin en la ciudad bielorrusa Narovlia.* *Foto: I. KURMANOVICH.*

НЕ ТОЛЬКІ ў музычным тэатры, але і ў кіно, на тэлебачанні і на эстрадзе, нават на стадыёне (у масавых святкаваннях і фігурным катанні) савецкі балет даказаў эстэтычную значнасць сваіх адкрыццяў і эксперыментаў. Успомнім цудоўныя камедыйныя тэлебалеты «Галатэя» і «Старое танга», пастаўленыя Дзмітрыем Бранцавым, ці бліскучую «Анюту» (паводле апавядання Чэхава «Ганна на шыі») у пастаноўцы Уладзіміра Васільева, успомнім кінафільм для вялікага экрана «Фуэтэ» з Кацярынай Максімавай у галоўнай ролі. Да месца сказаць і аб апошніх работах ленінградскага харэографа Барыса Эйфмана, аб яго нашумелым спектаклі «Майстар і Маргарыта» (па аднайменнаму раману Міхаіла Булгакава), парадаксальных спалучэннях тэатра традыцыйнага і эстраднага, мовы класікі і «мадэрн», музыкі сімфанічнай і электроннай.

Балет сёння святкуе сваё разняволенне ад векавечных догм і канонаў. Пачатак гэтаму працэсу быў пакладзены яшчэ на заранку XX стагоддзя, калі вялікія рускія рэфарматары музыкі і балета, стваральнікі Парыжскіх «Рускіх сезонаў», упершыню адчулі і скарысталі авангардны патэнцыял балета. Выбуховая хваля, узнікшая ад спектакляў «Пятрушка» і «Вясна свяшчэнная» на музыку Стравінскага дакацілася і да нашых дзён.

Дабратворнае ўздзеянне на балетнае мастацтва аказала ўварванне ў яго ўладанні стыхіі гумару, іроніі, гратэску, стылізаванай пластыкі архаічных народных танцаў, фальклорных абрадаў. Тут адразу ўспамінаецца ранняя работа ў Вялікім тэатры Наталлі Касаткінай і Уладзіміра Васілёва—іх «Вясна свяшчэнная» і не менш вядомая работа—балет «Стварэнне свету», пастаўлены на музыку ленінградца Андрэя Пятрова па матывах малюнкаў Жана Эфеля. Гэта была шчаслівая думка—перакласці серыю карыкатур з гісторыі Адама і Евы на мову танца, зліць міф і сучаснасць «класіку» і «мадэрн». Г[...] быў прарыў у зону своб[...]ай і стылізаванай характэрнай пластыкі, у зону гумару і гратэску, якія адкрылі перад балетным тэатрам даляглядры незавяяваных прастораў. У гэтыя прасторы і рынуліся рэфарматары савецкага балетнага тэатра, прыхоп[...]очы па дарозе выразныя [...]родкі такіх сучасных відаў рытмапластыкі, як гімнастыка, акрабатыка, аэробіка, эстрадны «рок» і да таго падобнае.

## САВЕЦКІ БАЛЕТ У ЛЮСТРЫ ПЕРАМЕН

# РАЗНЯВОЛЕННЕ АД КАНОНАЎ

Сёння нікога не здзіваць сюжэты Талстога і Дастаеўскага, Гогаля і Чэхава ў балетным тэатры. Балет навучыўся маралізаваць і выкрываць, высмейваць і бічаваць, злучаць высокае і нікчэмнае, прыгожае і агіднае. Танец усё далей адыходзіць ад былой «прыгажосці», дэкаратыўнасці, набываючы абрысы жыццёвасці і вастрыні. Такія, напрыклад, публіцыстычна яркія і сацыяльна вострыя спектаклі беларускага харэографа Валянціна Елізар'ева «Ціль Уленшпігель», «Карміна Бурана» з іх разгалінаванай сістэмай харэаграфічных метафар, алегорый, сімвалаў. Іх героі, застаючыся жыццёва праўдзівымі, у той жа час становяцца як бы сімваламі пэўных ідэй. У «Цілі Уленшпігелі» пра гэта гаворыцца адкрытым тэкстам: Ціль—Дух Фландрыі, кароль Філіп—Павук Фландрыі, Інквізітар—Жорсткасць Фландрыі, Рыбнік—Ганьба Фландрыі... «Балет—гэта майстэрства думкі,—гаворыць Валянцін Елізар'еў,—ён валодае ўсімі рысамі інтэлектуальнага тэатра».

І калі б гэта было не так, немагчымыя былі б вядомыя сёння балеты-прытчы, балеты-медытацыі, балеты шырокіх ідэй і абагульненняў, глыбокіх філасофскіх канцэпцый касмаганічнага плана. Такі, скажам, пастаўлены ў Сыктыўкары салістам Вялікага тэатра Вячаславам Гардзеевым балет «Памяць», дзе ўражвае глабальная ідэя «касмізму» сучаснага быцця. Балетны тэатр узяў на сябе смеласць стварыць спектакль-папярэджанне аб пагражаючай чалавецтву атамнай катастрофе. Стварыць на балетнай сцэне карціну сучаснага атамнага апакаліпсіса і стварыць легенду аб ахове прыроды і жыцця на Зямлі—цэнтральнай планетарнай ідэі нашых дзён. Такі тугі, адзіны метафарычны вузел сімфапластыкі, яркай музычна-харэаграфічнай полістылістыкі сёння магчымы толькі ў балеце, арганічна злучаным з музыкай. І таму мы бачым (і чуем!) такія натуральныя для сучаснай сцэны спалучэнні стылістыкі старадаўняга барока, бахаўскага харала са стылістыкай рок-музыкі, класічнай балетнай лексікі з элементамі джаз- і рок-танца, эстрадных, цыркавых, спартыўных пластычных форм.

Але тут мы падыходзім да рысы, за якой пачынаецца дарога з небяспечнымі паваротамі, за якімі—крызіс, упадак мастацкіх крытэрыяў у балеце. Мы назіраем гэта ў камедыйных спектаклях, напрыклад, у Дзмітрыя Бранцава, які ўзначальвае балетную трупу Музычнага тэатра імя Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі ў Маскве. У яго апошніх балетах, што маюць цягу да эстрадных мініяцюр, аднаактовых навел, такіх, як «Дзевяць танга і Бах» ці «Каўбоі» (на музыку Рапсодыі ў блюзавых тонах Гершвіна), гратэск перараджаецца ў голае трукацтва, тэхнічны прыём пачынае прэваліраваць над вобразнай сутнасцю.

Між тым пры самых нязначных спрыяльных умовах выразнасць акадэмічнай балетнай сцэны ва ўсім багацці сваіх сучасных магчымасцей знаходзіць сваё пацвярджэнне зноў і зноў. Аб гэтым красамоўна сведчаць, напрыклад, лепшыя новыя балеты Ленінградскага тэатра оперы і балета імя Кірава—«Браняносец «Пацёмкін» (на музыку Аляксандра Чайкоўскага) і «Віцязь у тыгравай шкуры» (музыка Аляксея Мачаварыяні), пастаўленыя галоўным балетмайстрам Алегам Вінаградавым. Тут бачацца контуры новай харэаграфічнай эстэтыкі, якая абапіраецца на новыя паняцці аб сцэнічнай прасторы і своеасаблівым харэаграфічным «жывапісе». Тут перамагае высокая эстэтыка шматпланавай умоўнасці і сімволікі балетнага жанру.

Тамара ГРУМ-ГРЖЫМАЙЛА,
мастацтвазнавец.

## ЗНАЁМЦЕСЯ:
## ТЭАТР САТЫРЫ І ГУМАРУ «ХРЫСТАФОР»

# ГАЛОЎНАЯ ЗБРОЯ—СМЕХ

У Міністэрства культуры рэспублікі прыйшла скарга: «Патрабуем спыніць дзейнасць новастворанай тэатральнай трупы пад дзіўнай назвай «Хрыстафор». Што гэта за Хрыстафор такі з'явіўся ў Беларусі? Ну хай бы сабе Лявон! Мы думалі адпачыць, пасмяяцца. Заплацілі па 2 рублі 50 капеек за білет. А ў выніку пайшлі адтуль з сапсаваным настроем. Што яны паказваюць народу? Думаюць, што перабудова — дык усё можна?! У гэтым тэатры асмейваюць усіх і ўся. І наша кіраўніцтва, і гандаль, і школу, і мастацтва. Іх з'едлівая сатыра на савецкую медыцыну і нашых медыкаў закранула мяне за жывое. Я сам доўгі час працую ўрачом. Усім вядома, што толькі ў нас бясплатная медыцына. Гэта вялікая заваёва сацыялізму. А асобныя недахопы ёсць. Дзе іх няма? Дык чаго рагатаць?

Так што, дарагія таварышы, патрабуем навесці парадак на сцэне». І подпісы.

Вось такая суровая скарга. Дарэчы, яна не адзіная. Як аказалася, іх сабралася ўжо некалькі. Ад людзей, якія пакрыўдзіліся на «Хрыстафора», палічылі закранутым гонар мундзіра, паглядзеўшы праграму мінскага тэатра сатыры і гумару «Хто — каго».

Дык што ж гэта за «Хрыстафор», які замест таго, каб смяшыць, забаўляць, цешыць людзей — злуе іх, абражае да слёз і прымушае пісаць такія вось абураныя пісьмы?

...З вядучымі акцёрамі «Хрыстафора» Яўгенам Крыжаноўскім і Юрыем Лясным я сустрэлася неўзабаве пасля першых гастролей тэатра за межамі рэспублікі. Да пачатку спектакля было яшчэ каля дзвюх гадзін, але ўся трупа працавала: музыканты і канферансье ля мікрафонаў; артысты за кулісамі танцавалі, ніхто не грэбаваў і чарнавой работай.

— Не здзіўляйцеся,— папярэдзіў мяне Ю. Лясны.— У нас няма рабочых. Увесь штат — 15 чалавек. Таму кожны сумяшчае творчую пасаду з тэхнічнай. Я, напрыклад, акрамя таго, што вядучы артыст, яшчэ і дырэктар. А Яўген — асістэнт рэжысёра. Мы на гасразліку. Як папрацаваў — так і атрымай. Зарабляем, між іншым, вельмі прыстойна. Аднак жа і занятасць, і адказнасць не параўнаць з тымі, што былі ў нас у акадэмічным тэатры.

Яўген Крыжаноўскі і Юрый Лясны, да ведама чытача, не з тых, каго называюць няўдачнікамі. Хутчэй наадварот. Ім абодвум моцна пашанцавала. Пасля інстытута запрасілі ў трупу славутага купалаўскага тэатра. Тут раскрыўся камедыйны талент Яўгена Крыжаноўскага, які сыграў нямала галоўных роляў у спектаклях. Пра яго многа пісала прэса. Не на апошніх ролях таксама быў і Юрый Лясны.

На гро[...]род яснага неба было пад[...]а рашэнне гэтых артыстаў пакінуць свой тэатр, бо з купалаўскім, бадай, ніхто яшчэ сам не расставаўся. Беспрэцэдэнтны, як кажуць, выпадак.

Яны забралі з сабой і яшчэ аднаго артыста — Генадзя Давыдзьку.

— Наш «Хрыстафор» пачынаўся на кухні ў Генадзя,— расказвае Я. Крыжаноўскі.— Мы збіраліся ў яго на кубачак кавы, разыгрывалі інтэрмедыі. Менавіта там і выспела думка зрабіць такі тэатр. Тым больш, што расло з гадамі ўнутранае незадавальненне сваёй работай у купалаўскім тэатры. Хаця і былі асобныя ўдалыя работы ў калектыва, але адчувалася, што тэатр — у заняпадзе. І гэта не толькі мой родны купалаўскі. Гэта нейкая агульная тэндэнцыя. Што зараз адбываецца ва ўсіх сферах жыцця! Бурліць жыццё. А тэатр маўчыць альбо спазняецца сказаць сваё слова. Ці ідзе следам за газетамі, публіцыстыкай.

«Тэатр сатыры і гумару? — паблажліва паглядвалі тады на хлопцаў акадэмісты. — Гэта несур'ёзна»,— аднадушна вырашылі яны.

Але ж маладыя энтузіясты ад слоў перайшлі да спраў. Знайшлі дах над галавой і пачалі рэпетыцыі. Штодзень збіраліся ў 11 раніцы. І да позняй ночы не разыходзіліся. Надзвычай суровы расклад дня не ўсе вытрымалі. Некаторыя проста не змаглі працаваць у такім напружаным рытме, пакінулі «Хрыстафор». Да таго ж, як аказалася, гумар і сатыра — цяжкія жанры: трэба ўмець імправізаваць, спяваць, танцаваць і г. д. Быць універсалам.

**«Пішу слова «Бе-ла-русь». Пішу слова «ве-се-ла», «ці-ка-ва»,— нягучна і распеўна цягнулі малыя, дапамагаючы сабе гэтым выводзіць літара за літарай склады ў сшытках. Справіўшыся з такой нялёгкай для іх задачай, першакласнікі па просьбе настаўніцы Ларысы Адамовіч сталі прыпамінаць словы з гукам «ц», вызначалі зычныя і галосныя літары, правялі гульню «Прабегі па каляровых сцяжынках» — словам, займаліся весела і з захапленнем. І, чуючы іх прыгожую і правільную мову на ўроку, няспынны гоман на пераменках, не верылася, што яшчэ некалькі месяцаў назад многія з іх на беларускай мове зусім не гаварылі. Нямала давялося прыкласці стараннняў калектыву 72-й мінскай школы, каб сабраць гэтых хлапчукоў і дзяўчынак у першым беларускім класе. Іншыя бацькі па некалькі разоў то прыносілі, то забіралі заяву з просьбай аб залічэнні малога ў беларускі клас. Падтрымку знайшлі ў сваіх былых выпускнікоў: Ірына Маміева і Сяргей Яковін у ліку першых прывялі сваіх Крысціну і Рыгорку ў 1 «А». Усе разам пастараліся, каб клас быў утульным, добра аформленым наглядными дапаможнікамі, каб у дастатку быў розны дыдактычны матэрыял.**

**Не толькі пра сённяшні дзень 1-га «А» і знешні антураж думаюць у школе № 72, але і пра далейшы лёс дзяцей з гэтага класа. А таму многія настаўнікі заселі за кнігі і зрабілі прыкметныя поспехі.**

**Але нават пры вялікім энтузіязме ў рамках толькі школы нельга дасягнуць пералому ў поглядах на родную мову. Дырэктар школы Ніна Астроўская з горыччу гаворыць пра яе заняпад. Яна лічыць, што яшчэ вельмі нязначна садзейнічаюць школе пісьменнікі, творчая інтэлігенцыя. Хацелася б, каб не гасцямі, а сваімі людзьмі сталі яны ў калектыве, дапамаглі ў канкрэтных справах, напрыклад, узяўся б хто-небудзь весці бацькоўскі гурток беларускай мовы. Ніна Іванаўна ўпэўнена, што жадаючых наведваць яго было б нямала, а значыць прасцей было б набіраць дзяцей у 1-шы «А» ў наступным годзе. Словам, само па сабе адраджэнне роднай мовы не адбудзецца, і мяняць сітуацыю можна толькі канкрэтнымі справамі.**





**НА ЗДЫМКАХ: першая кніжка; Ларыса АДАМОВІЧ вядзе ўрок у 1-м «А» класе.**

**Фота У. ШУБЫ.**

— У нас чамусьці прынята лічыць сатыру і гумар — эстрадныя жанры — амаль што другім гатункам у параўнанні, скажам, з драмай, — разважае Яўген Крыжаноўскі.— Гэта ў корані няправільна. Сатыра і гумар ва ўсе часы былі магутнай зброяй у барацьбе з заганамі як грамадскімі, так і чалавечымі. «Асмяянае зло ўжо не ёсць зло». Альбо вось яшчэ: «Нацыя, якая не можа смяяцца над сабой,— мёртвая нацыя». Смех ачышчае. Смех — лекар. У нас, дарэчы, нягледзячы на тое, што ідзе перабудова, цяжкавата з гумарам і сатырай. Яны існавалі заўсёды, гэта так. Але часцей за ўсё на бытавым узроўні. З усіх бакоў высмейвалася сфера паслуг, грубыя прадаўшчыцы і злосныя жонкі, гандляры на рынку і г. д. Але за апошнія 3—4 гады мы так многа даведаліся пра сваё грамадства, пра сябе, пра механізм грамадскага застою, што стала не да смеху.

Тэатр, з якім я вас сёння знаёмлю, па сутнасці, перажывае пакуль што перыяд свайго станаўлення. Сфарміравалася трупа, дзе сабраліся аднадумцы. Акрамя вядучых артыстаў, пра якіх я ўжо казала, тут выступае Аляксандр Нікітчанка, прафесіянал у эстрадна-цыркавым мастацтве, Сяргей Кравец, вакаліст-парадыст, мінскі бард Анатоль Длускі і музычная група. Галоўны рэжысёр — Міхаіл Казакоў; мастацкі кіраўнік Уладзімір Перцаў з'яўляецца і аўтарам пародый і інтэрмедый для «Хрыстафора». Вельмі цікавы і перспектыўны творчы калектыў. За год свайго існавання далі каля 200 спектакляў, пабывалі на гастролях у ГДР, Ленінградзе, выступалі з адэскім тэатрам «Камедыум», прынялі ўдзел у фестывалі палітычнай сатыры ў Маскве, дзе занялі першае месца сярод падобных калектываў. За такі кароткі час дастаткова ўпэўнена заявілі пра сябе.

Твар тэатра, можна сказаць, акрэсліваецца. «Хрыстафор» дае стабільны прыбытак дзяржаве. Пустых месцаў у зале не бывае. Ёсць свой глядач. Міністэрства культуры, у сваю чаргу, мае намер надаць гэтаму тэатру статус дзяржаўнага. Думаецца, што ў любым выпадку такі тэатр вельмі патрэбны нашаму гораду.

Спектакль «Хто — каго», які мне давялося паглядзець у «Хрыстафоры», ідзе дзве гадзіны. Гэта своеасаблівая мазаіка, набор нумароў, не звязаных паміж сабой па сэнсу. Увогуле зала рагоча бесперапынна. Праглынае і тонкі гумар, і гумар з барадой! Дэфіцыт жанру, сказалі б у такім выпадку крытыкі. Сапраўды востры дэфіцыт.

Да гонару артыстаў тэатра «Хрыстафор», якія ўдыхнулі ў яго жыццё, яны няблага разумеюць, што зрабілі яшчэ толькі першы, нясмелы крок у ажыццяўленні сваіх праектаў і задум.

— Усё толькі пачынаецца,— кажа Я. Крыжаноўскі.— Нам патрэбны яшчэ акцёры яркага камедыйнага даравання. Такую трыбуну, якую мы маем, каб весці гаворку з сучаснікам, неабходна выкарыстоўваць з годнасцю. Рыхтуем праграму «Вячэрні Мінск», «Батлейка», збіраемся падрыхтаваць камічную оперу «Перабудова і новае мысленне», дзе будзе скарыстаны беларускі матэрыял.

Менавіта свой, нацыянальны каларыт, свае, не ўзятыя напракат у суседзяў тэмы і праблемы, якія стануць у далейшым матэрыялам для рэпрыз і інтэрмедый, і павінны прынесці найбольшы поспех гэтаму калектыву, зрабіць яго яшчэ больш папулярным, любімым і аўтарытэтным у гледача.

Таццяна АНТОНАВА.

# ДЗВЕ ПЕСНІ Ў СЭРЦЫ АДНЫМ

Некалі, гадоў мо з трыццаць пяць назад, вершы яго друкаваліся ў абласной гродзенскай газеце, а пасля і ў Мінску. Ёмістая паэтычная падборка Міхася Карпенкі з'явілася і ў «Полымі». Часопіс тады рэдагаваў Максім Танк.

Але так здарылася, што пасля вучобы ў Маскве хлопца з Хоцімшчыны накіравалі на працу ў Туркменію. Спярша быў адказным сакратаром газеты «Комсомолец Туркменистана», потым рэдагаваў газету ў Краснаводску. А яшчэ праз некалькі гадоў Міхась Фядотавіч становіцца рэдактарам «Ташаузской правды». Кароткая хроніка-біяграфія яго пасад, але ж колькі там умясцілася падзей, клопатаў, трывог.

Ішлі гады. Асяроддзе літарататараў, паэтаў заўжды было вялікім і ў тых гарадах Туркменіі, дзе працаваў наш зямляк. Паціху і пачаў пісаць Міхась Карпенка на рускай мове. Акрамя ўласных клопатаў, жыў і клопатамі сваіх туркменскіх калег.

Да прыкладу, гадоў колькі назад галоўны рэдактар ашхабадскага выдавецтва «Магарыф» паэт Касым Нурбадаў расказваў: «Сур'ёзна дапамог мне Міхась Фядотавіч, перакладаючы мае вершы на рускую мову».

А яму ж і самому нялёгка было. І таксама дапамагалі сябры. Працаваў у Ашхабадзе, нярэдка наязджаў у Ташауз цудоўны рускі паэт Юрый Рабінін. Дарадчыкамі Міхася Карпенкі былі і туркменскія калегі Мамед Сейідаў, Шахер Барджакаў. Клапатліва ставіліся да паэтычнай працы нашага земляка і супрацоўнікі часопіса «Ашхабад». Яны і зараз — Мікалай Залатароў, Уладзімір Пу, Аляксандр Гоўберг, Альберт Палякоўскі — рады кожнаму новаму вершу, што прыносіць Міхась Фядотавіч у рэдакцыю часопіса.

У Ашхабадзе адна за другой выйшлі і многія паэтычныя зборнікі Міхася Карпенкі — «Бярозавая галінка», «Чырвоны колас», «Мая качавая юрта», «Песня дутара»... Дзве кнігі вершаў нашага земляка ўбачылі свет і ў выдавецтве сталіцы Каракалпакіі—Нукусе. Зборнік яго паэзіі пераклаў на туркменскую мову Мамед Сейідаў. Зараз кніга рыхтуецца да выхаду ў выдавецтве «Туркменистан».

...Калі даводзіцца сустракацца з паэтам-земляком, то аб чым толькі не перагаворыш. І найпершае, з чаго пачынае сам Міхась Фядотавіч, дык гэта гутарка пра тое, што ж дапамагае яму ў працы.

— Еднасць з Беларуссю. Штогод туды, бы на крылах, лячу, — гаворыць Карпенка. — Але ж хіба пакінеш Туркменію?!

Так, яму дапамагае духоўная еднасць з абедзвюма рэспублікамі, якія сталі роднымі старонкамі. І сапраўды, дзве песні ў адным паэтавым сэрцы. Піша ён пра Беларусь, піша і пра Туркменію.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

## ДЗЕ МАГЛО Б ЗНАЙСЦІ ПРЫТУЛАК БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА КУЛЬТУРЫ Ў ВІЛЬНІ?

# БАЗЫЛЬЯНСКІЯ МУРЫ

На ўстаноўчым сходзе Таварыства беларускай культуры, што заснавалася пры Літоўскім фондзе культуры ў Вільні, было выказана многа пажаданняў у адрас новага згуртавання беларусаў у Літве. Аднак, зацверджаная яшчэ ў снежні мінулага года, гэта грамадская арганізацыя дагэтуль не мае свайго кута. На тым сходзе выказваліся і надзеі, што таварыства магло б знайсці прытулак у старажытных мурах былога базыльянскага кляштара, які, дарэчы, мае глыбокія традыцыі ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху, быў некалі адным з цэнтраў беларускай культуры ў Вільні.

Праходзячы па вуліцы Вялікай (Дзіджоі) каля філармоніі ў бок Вострай Брамы, міжволі кідаеш позірк на прыгожы помнік віленскай архітэктуры, збудаваны ў традыцыях позняга барока. Гэта вароты ў былы уніяцкі кляштар ордэна базыльянаў. Але да базыльянаў, якія прынялі кляштар у сваё валоданне па загаду караля Жыгімантa III у 1608 годзе, тут знаходзіўся праваслаўны манастыр з царквой св. Тройцы.

На працягу XV і XVI стагоддзяў манастыр быў своеасаблівым культурным цэнтрам беларускага насельніцтва літоўскай сталіцы, бо пры ім існавалі бальніца, школа, а затым і друкарня. Збудаваныя ў XIV стагоддзі, царква і манастыр былі драўлянымі. У Вільні тады яшчэ амаль зусім не было мураваных будынкаў. Толькі ў пачатку XVI стагоддзя гетман Вялікага княства Літоўскага князь Канстанцін Астрожскі, гарачы прыхільнік праваслаўя, як удзячнасць богу за перамогу над маскоўскім войскам пад Оршай на месцы спарахнелых ужо драўляных цэркваў св. Міколы і св. Тройцы збудаваў мураваныя.

Ордэн уніятаў-базыльянаў валодаў гэтым аб'ектам ажно да скасавання Брэсцкай царкоўнай уніі на тэрыторыі Расійскай імперыі ў 1839 годзе, а тады быў аддадзены праваслаўнай царкоўнай іерархіі. У другой палове XIX стагоддзя тут была створана праваслаўная духоўная семінарыя, якая існавала да другой сусветнай вайны. У ёй вучыліся пераважна беларусы, выхадцы не толькі з Віленскага краю, але і з усёй Заходняй Беларусі.

Цікава, што яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя царскі рэжым часткова ператварыў гэты будынак у турму, дзе трымалі палітычных зняволеных, якія выступалі супраць самадзяржаўя, супраць анексіі Літвы і Польшчы. У іх ліку знаходзіўся і класік польскай літаратуры—паэт Адам Міцкевіч. Яго трымалі тут у 1823—1824 гадах пасля вядомага працэсу над удзельнікамі прагрэсіўных арганізацый філаматаў і філарэтаў.

Пачынаючы з XX стагоддзя, самыя глыбокія традыцыі звязваюць гэты будынак з беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам. Ужо ў першым дзесяцігоддзі беларускія прагрэсіўныя дзеячы спрабавалі наладзіць сувязі з навучэнцамі духоўнай семінарыі, абуджалі ў іх нацыянальную самасвядомасць. Многія з іх адмовіліся ад духоўнай дзейнасці, пайшлі вучыцца далей ды папаўнялі кволыя яшчэ тады рады беларускай інтэлігенцыі.

У 1919 годзе па ініцыятыве віленскага археолага і вядомага грамадскага дзеяча Івана Луцкевіча пры дапамозе групы беларускіх педагогаў менавіта ў гэтым будынку была адчынена першая беларуская гімназія.

Адначасова з гімназіяй, а мо нават крыху раней тут быў адчынены і беларускі прытулак для сірот, у асноўным выхадцаў з сялянскай беднаты. Існаванне прытулку дало магчымасць многім дзецям-сіротам вучыцца ў сваёй гімназіі, атрымаць асвету на роднай мове.

Прыблізна ў тым жа часе тут арганізавалася і беларуская аматарская тэатральная майстэрня, якая існавала ў першай палове дваццатых гадоў.

Не менш цесна звязана з будынкам базыльянскага кляштара і гісторыя беларускага гісторыка-этнаграфічнага музея ў Вільні. Музей узнік з багатых прыватных калекцый успомненага ўжо археолага Луцкевіча, які ўсе гэтыя каштоўнасці збіраў на працягу амаль усяго свайго свядомага жыцця. Калі ў Вільні выдавалася газета «Наша Ніва», дык калекцыі захоўваліся пры рэдакцыі. Пра гэта згадваюць многія беларускія паэты і пісьменнікі, якія бывалі ў Вільні і супрацоўнічалі з газетай. Калекцыі складаліся з археалагічных, гістарычных і этнаграфічных экспанатаў, якія мелі дачыненне да ўсёй Беларусі і, у прыватнасці, Вільні. У іх былі прадстаўлены дужа цікавыя помнікі культуры Вялікага княства Літоўскага. Прыкладам можа быць надрукаваны ў Вільні ў 1588 годзе Літоўскі статут, фрагменты біблii Скарыны, старадрукі на царкоўнаславянскай мове з кракаўскай друкарні Швэйпольта Феоля яшчэ з канца XV стагоддзя, меч віленскага ка́та, старажытная зброя, прадметы археалагічных раскопак, багатая калекцыя слуцкіх паясоў. Збіральнік гэтых калекцый яшчэ да сваёй смерці ў 1919 годзе запрапанаваў стварыць Беларускае навуковае таварыства і перадаў яму ўсе свае багацці дзеля арганізацыі нацыянальнага музея. Дарэчы, і навуковае таварыства змяшчалася ў сценах старога кляштара, тут нейкі час знаходзілася і Таварыства беларускай школы. Музей разам з багатай бібліятэкай і архівам быў адчынены ў 1921 годзе і існаваў да 1946 года.

У міжваенны час у сценах старажытнага кляштара суіснавалі дзве навучальныя ўстановы—праваслаўная духоўная семінарыя і беларуская гімназія. На панадворку адбываліся сумесныя гульні і спартыўныя спаборніцтвы. Семінарысты наведвалі вечарыны, якія ладзіліся гімназіяй, некаторыя нават удзельнічалі ў гімназічным народным хоры, якім кіраваў тады сціплы выхавальнік інтэрната Рыгор Шырма, а пазней славуты дзеяч нацыянальнай культуры. Суседства гімназіі, музея і ўсяго гэтага своеасаблівага беларускага культурнага цэнтра мела на семінарыстаў уплыў. У выніку сярод часткі выпускнікоў семінарыі аказаліся пазней прадстаўнікі беларускай творчай інтэлігенцыі. Прыкладам можа служыць народны артыст СССР, вядомы беларускі музыказнавец Генадзь Цітовіч.



Пасля другой сусветнай вайны беларускі цэнтр у базыльянскіх мурах перастаў існаваць. Зрэшты, не было яго і ў якім іншым месцы, бо зусім спынілася ў нашым горадзе грамадскае жыццё сярод тутэйшага беларускага насельніцтва.

Пасля вайны ў кляштары размясціўся педагагічны інстытут, а затым пасля завяршэння будаўніцтва для яго новага гмаху ў раёне Звярынца месца педагагічнага інстытута заняў інжынерна-будаўнічы. Цяпер тут знаходзіцца філіял Каўнаскага політэхнічнага інстытута. Аднак сцены старога кляштара не дужа прыдатныя для размяшчэння ў ім сучаснай вышэйшай навучальнай установы, а тым болей тэхнічнага профілю.

У гэтым часе сякі-такі рамонт тут праводзіўся, але ж яўна недастатковы для поўнай рэстаўрацыі гэтага гістарычнага аб'екта. **Нядрэнна** былі адрамантаваны званіца і галоўныя вароты. Аднак на сярэдняй частцы варот знікла фрэска, гэтаксама ад фрэскаў на фасадзе царквы хутка нічога не застанецца. Тут шырокае поле дзейнасці для рэстаўратараў.

Новыя павевы, якія прывялі да больш ліберальных адносін да рэлігійных запатрабаванняў насельніцтва, змусілі па-новаму зірнуць і на праблему сённяшняга выкарыстання будынкаў культавага прызначэння. Грамадскасць дужа зацікаўлена лёсам гэтага архітэктурнага помніка.

Выказвалася думка аб стварэнні ў царкве музея іканапісу з прадстаўленнем у ім ікон розных школ і традыцый, характэрных для розных хрысціянскіх абрадаў. Гэта было ў нейкім сэнсе аб'ядноўваючым пачаткам у агульным рэчышчы далучэння да хрысціянскай маралі і хрысціянскай культуры.

Адносна ўсяго кляштарнага комплексу, дык ён безумоўна павінен быў бы трапіць у распараджэнне Літоўскага фонду культуры. Гэтая арганізацыя даказала, што шчыра спрыяе зберажэнню і развіццю ўсіх нацыянальных культур нашага рэгіёна. Відавочна, неабходна было б улічыць, што і беларуская грамадскасць з надзеяй чакае вырашэння лёсу базыльянскага кляштара з улікам яго традыцый і магчымасці адраджэння ў ім беларускага культурнага цэнтра, які склаўся гістарычна.

Галіна ВОЙЦІК,
кандыдат філалагічных навук.

**НА ЗДЫМКУ:** галоўная брама базыльянскага кляштара.

## ВЫДАДЗЕНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ

**Сёння цяжка сабе ўявіць, як абыходзіліся некалі людзі без такой універсальнай сельскагаспадарчай культуры, як бульба. «Які стол без бульбы! Бульбы не паясі — як галодны». Так кажуць у нас на Беларусі. Здаўна ў беларуса бульба была любімай ежай. З яе гатавалі сотні самых разнастайных страў.**

**Бульба — каштоўны і незаменны прадукт харчавання. Нездарма яе называюць другім хлебам. Яна з'яўляецца таксама адным з асноўных кармоў у жывёлагадоўлі.**

**Як правільна вырошчваць бульбу, павысіць яе ўраджайнасць і якасць, як лепш яе захоўваць, больш рацыянальна перапрацоўваць і выкарыстоўваць! Адказы на гэтыя і многія іншыя пытанні дае энцыклапедычны даведнік «Бульба» — першае ў айчыннай практыцы выданне такога роду пра бульбу.**

**Даведнік у сціслай энцыклапедычнай форме ахоплівае шырокае кола звязаных з бульбаводствам тэарэтычных і практычных праблем. Менавіта таму ён будзе карысным не толькі для вучоных і практыкаў-бульбаводаў, але і для самага шырокага чытача — уладальнікаў прысядзібных і садова-агародных участкаў.**

**Аснову даведніка складаюць 2 тысячы артыкулаў. У якасці дадатку ў даведнік уключаны самастойным раздзелам артыкул пра стравы з бульбы (каля 700 рэцэптаў нацыянальнай і сусветнай кухні).**

**Дарэчы, з бульбы можна прыгатаваць і торт. Гэта нескладана.**

**Звараную ў мундзірах бульбу абабраць, нацерці. Жаўткі старанна расцерці з цукровай пудрай, змяшаць з нацёртай бульбай, дадаваць лімонную цэдру, карыцу, соду, масла ці маргарын, узбітыя да пены бялкі і муку. Замясіць цеста, пакласці ў маленькую круглую форму (каб торт атрымаўся высокім), змазаную маслам, і выпякаць у духоўцы каля 90 мінут. Пакласці на блюда і пасыпаць ванільным цукрам. На 10 порцый: 500 грамаў бульбы, 3 шклянкі мукі, 1 1/2 шклянкі цукровай пудры, 2 яйкі, 5 сталовых лыжак маргарыну ці сметанковага масла, 1 сталовая лыжка карыцы, 2 чайныя лыжкі ванільнага цукру, лімонная (апельсінавая) цэдра, сода. Каларыйнасць 1 порцыі 378 кілакалорый.**

**Артыкулы даведніка ілюстраваны малюнкамі, чарцяжамі, схемамі, графікамі, асобным тэмам прысвечаны каляровыя ўклейкі.**

**Даведнік пра бульбу выйшаў у выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя П. Броўкі на рускай мове. Тыраж 25 000 экземпляраў.**






**Цуд-ручнікі, срабрыста-белыя, святочныя, сэрца радуецца ад майстэрства народнага. Усё, што бачыць майстрыха прыгожага на родных палях, лугах, лясах, закладзе ва ўзор тканага ручніка ці посцілкі.**

**У вёсцы Макраны Мінскай вобласці жыве і працуе таленавітая ткачыха Ганна Палішчук, якая не толькі валодае сакрэтамі ткацтва, але і вышывае. Яна клапатлівая маці, цудоўная гаспадыня. Працуючы брыгадзірам майстрых-надомніц Слуцкай фабрыкі мастацкіх вырабаў, перадавала свой вопыт і веды маладым. Рысунак для тканага вырабу Ганна Іванаўна складае сама, беручы за аснову беларускі арнамент, захоўваючы традыцыйнае, адкідваючы наноснае, дадаючы новае, сучаснае, падказанае жыццём і ўласнымі назіраннямі. Вырабы Г. Палішчук часта зацвярджаюцца на мастацкім савеце як творы мастацтва. Каб быць тонкім мастаком, трэба многа ведаць і ўмець, валодаць законамі кампазіцыі ў ткацтве, адчуваць прапорцыі асобных дэталей узору. Ганна Іванаўна ўзоры выношвае ў сабе, не робячы замалёвак. Часта яны сняцца ёй. «Адпачываю і маладзею, калі працую і ствараю новы ўзор», — гаворыць яна.**

**Вытканыя рукамі Ганны Іванаўны ручнікі на адлегласці здаюцца залатымі. Толькі ўзяўшы ў рукі, бачыш, што вытканы яны з ільняных ніцей. Вырабы яе экспануюцца на пастаянна дзеючай выстаўцы ў Ялце, на ВДНГ СССР і ў гістарычным музеі ў Маскве, у Дзяржаўным мастацкім музеі ў Мінску і ў іншых месцах.**

**НА ЗДЫМКУ: Ганна ПАЛІШЧУК каля свайго дома ў вёсцы Макраны.**

**А. КРАСІЧКАВА.**

## спорт

Маладыя наступаюць. Усё часцей і часцей новыя імёны спартсменаў з'яўляюцца ў спісах пераможцаў. Хто, напрыклад, мог прадбачыць, што на першых этапах усесаюзнай мнагадзённай веласіпеднай гонкі на прызы газеты «Черноморская здравница» лідэрства захопіць Сяргей Купрыяновіч з Бабруйска?.. А тут у паўсілы ніхто не будзе выступаць: спаборніцтвы з'яўляюцца адным з адборачных этапаў да велагонкі міру.

У матчы першынства краіны па гандболу паміж камандамі СКА (Мінск) і ЦСКА (Масква) беларускія спартсмены выступалі супраць вопытных сапернікаў маладзёжным саставам. Але гэта не перашкодзіла мінчанам атрымаць перамогу ў прынцыповай сустрэчы з лікам 28:25.

Нямала маладых хакеістаў было ў складзе мінскага «Дынама», якія гасцілі ў Польшчы. Дынамаўцы згулялі два таварыскія матчы са зборнай гэтай краіны. У першай сустрэчы зафіксавана нічыя — 3:3. Другі матч мінчане выйгралі з лікам 4:3.

У значна абноўленым складзе пачала першынство краіны па футболу каманда мінскага «Дынама». Цімашэнка, Кашанцаў, Расіхін. Вось далёка не поўны пералік маладога папаўнення флагмана беларускага футбола.

Праўда, і «старая гвардыя», як кажуць, не падводзіць. Узяць хаця б спаборніцтвы ў Таліда за Кубак свету па барацьбе. Савецкія спартсмены заваявалі ганаровы трафей. Тут вызначыліся гродзенцы — Шамсадзін Абасаў і Анатоль Федарэнка — лідэры каманды СССР.

А ў Боне мацнейшыя барцы 16 краін вялі барацьбу за «Вялікі прыз ФРГ». Тут вызначыўся мінчанін К. Маджыдаў. Ён заняў першае месца.

## У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ

# ДАБРАЧЫННЫЯ МАРКІ

Гісторыя паштова-дабрачынных выпускаў марак пачалася ў канцы мінулага стагоддзя ў аўстралійскім штаце Новы Паўднёвы Уэльс. Ідэя выпуску заключалася ў тым, што да звычайнага наміналу маркі дабаўляўся дабрачынны збор, які ішоў на развіццё медыцынскага абслугоўвання.

У Еўропе першы паштова-дабрачынны выпуск з'явіўся ў Расіі ў снежні 1904 года. Серыя складалася з чатырох паштовых мініяцюр з адлюстраваннем Маскоўскага Крамля, помніка Мініну і Пажарскаму ў Маскве, Пятру І у Пецярбургу, адміралу У. Карнілаву ў Севастопалі. Дадатковы збор прызначаўся для дзяцей-сірот воінаў, якія загінулі ў руска-японскай вайне.

У Савецкай Расіі першыя паштова-дабрачынныя маркі з'явіліся ў 1922 годзе. Дадатковы збор ад іх продажу ішоў на дапамогу галадаючым. Затым былі выпускі «Філатэлія — працоўным» (1923 год), «У дапамогу пацярпеўшаму ад паводкі насельніцтву Ленінграда» (1924 год), «У дапамогу беспрытульным дзецям» (1927—1929 і 1930 гады). У 1933 годзе серыяй марак была адзначана Усесаюзная філатэлістычная выстаўка. Дадатковы збор ад продажу гэтых серый ішоў на пакрыццё расходаў, [illegible]звязаных з выстаўкай. [illegible]976 годзе ў нашай краі[illegible] [illegible]ыў ажыццёўлены яшчэ адзін паштова-дабрачынны выпуск. Яго з'яўленне было звязана з падрыхтоўкай XXII летніх Алімпійскіх гульняў. Тады за перыяд з 1976 па 1980 [illegible] было выдадзена 73 м[illegible] і 6 блокаў з алімпійск[illegible] сюжэтам і дабавачным коштам. Усе дадатковыя даходы ад продажу гэтых марак паступілі ў фонд аргкамітэта Алімпійскіх гульняў 1980 года ў Маскве.

Летась у нашай краіне ажыццёўлены новы паштова-дабрачынны выпуск, які складаўся з трох марак і блока. Дадатковы даход ад продажу гэтага выпуску пойдзе ў Савецкі фонд культуры.

Гэта пакуль першы такі выпуск. Не зусім звычайна падабраны сюжэты марак серыі. На іх рэпрадуцыраваны творы мастацтва, якія падарылі Савецкаму фонду культуры замежныя грамадзяне і савецкія людзі.

З асабістай калекцыі народнага мастака РСФСР Я. Лансерэ перададзены партрэт яго жонкі работы славутай мастачкі Зінаіды Серабраковай. Гэта карціна на марцы, што адкрывае серыю, яе намінал 10 + 5 капеек. Наступная марка з рэпрадукцыяй карціны мастака К. Лебедзева «Баярыня разглядае рысунак для вышыўкі». Палатно гэта было напісана ў 1905 годзе. Карціна — дар барона Э. Фальц-Фейна з Ліхтэнштэйна Савецкаму фонду культуры. На трэцяй марцы — карціна рускага жывапісца М. Багданава-Бельскага «Талент» (1910). Савецкаму фонду культуры яна была падаравана амерыканскім бізнесменам доктарам А. Хамерам разам з іншым творам гэтага ж мастака «З прашэннем».

Серыю завяршае паштовы блок з адлюстраваннем іконы «Тройца» наўгародскай школы (работа канца XV — пачатку XVI стагоддзяў), напісанай для Сафійскага сабора. Ікона была падорана пані Б. Ракфелер Савецкаму фонду культуры ў час візіту М. С. Гарбачова ў ЗША ў канцы 1987 года.

**Леў КОЛАСАЎ.**

## ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

# БЕЗГАЛОСАЯ ПТУШКА

**У БССР налічваецца больш за 250 пар чорных буслоў, занесеных у Чырвоную кнігу. Асноўнае месца канцэнтрацыі гэтых асцярожных птушак — Гомельская вобласць (102 пары). Далей ідуць Брэсцкая — 49 і Мінская вобласць — 46 пар. А вось у Гродзенскай і Магілёўскай абласцях чорны бусел з'яўляецца дзіўнай і мала каму вядомай птушкай.**

**Цікава, што як чорны, так і белы бусел безгалосыя птушкі. Але разумеюць яны адзін аднаго з дапамогай шчоўкання дзюбай, прычым па-рознаму, у залежнасці ад акалічнасцей. І толькі птушаняты, выпрошваючы корм, даволі гучна пішчаць. Голас знікае ў іх пакрысе — па меры таго, як яны становяцца дарослымі.**

**У некаторых еўрапейскіх краінах захаваўся звычай: у дзень, калі ў сям'і з'явіўся нованароджаны, над домам вывешваюць флаг з адлюстраваннем белага бусла, які нясе ў дзюбе спавітае немаўля. У беларускай белы бусел — бусел, у дыялектах Ленінградскай і Пскоўскай абласцей — каліст. Каліст — старарускае мужчынскае імя грэчаскага паходжання, якое азначае «самы прыгожы», а Каліста (Аліса, Аля) — жаночае імя з тым жа значэннем. Дарэчы, белы колер у славянскай міфалогіі азначае свяшчэнны колер, колер шчасця і ўдачы.**

**І. ШПАДАРУК.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 412